


# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА-ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 26 (54) 11—17 жніўня 1993 г. Цана 5 рублёў


## Кампазітар, прафесар, народны артыст...



**13 жніўня спаўняецца 80 гадоў з дня нараджэння беларускага кампазітара, педагога і грамадскага дзеяча Анатоля Васільевіча Багатырова.**

Нарадзўся знакаміты кампазітар у Віцебску ў 1913 годзе. У 1937 скончыў Беларускую кансерваторыю. З 1948 г. выкладаў у ёй кампазіцыю. У 60-м стаў прафесарам. Амаль паўтара дзесяцігоддзя быў рэдактарам альма матэр. У У Анатоля Багатырова вучыліся такія музычныя славутасці, як Яўген Глебаў, Ігар Лучанок, Дзмітрый Смольскі.

Але, зразумела, найперш Анатоль Васільевіч—кампазітар. Ягоная творчасць узбагаціла многія жанры беларускай музыкі. Напрыклад, Багатыроў стварыў шэраг опер, кантатаў. Напісаў музыку для некалькіх фільмаў ды тэатральных пастановак. У 1969 годзе за арыгінальную шматчасткавую кампазіцыю «Беларускія песні» атрымаў Дзяржаўную прэмію.

Праца нашага земляка ацэнена па заслугах—яму прысвоена званне народнага артыста рэспублікі.

**М. ВАЛАЧОБНІК.**

**На фота:** А. Багатыроў не забывае горад свайго дзяцінства. Летась тут адбыўся творчы вечар кампазітара.

## Інфармацыя аб III Усебеларускай палітычнай канферэнцыі

6—7 ліпеня ў Менску прайшла III Усебеларуская палітычная канферэнцыя, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі беларускіх грамадска—палітычных рухаў—БНФ, БСДГ, АДПБ, БСП, ПНЗ і Жаночай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасці, а таксама прадстаўнікі беларускай дыяспары з ЗША, Канады, Аўстраліі, Францыі і іншых краін.

Ад БСДГ на канферэнцыі было абрана 5 дэлегатаў—А. Трусаў, А. Сідарэвіч, М. Чарняўскі, А. Гурыновіч, М. Патрэба. У якасці гасцей прысутнічалі В. Скалабан і І. Рынкевіч. Канферэнцыя мела чатырох сустаршынь—Л. Лойку ад ПНЗ, А. Гурыновіча ад БСДГ, Ю. Хадыку ад БНФ, А. Дабравольскага ад АДПБ. Старшынёй рэдакцыйнай камісіі быў абраны А. Сідарэвіч, старшынёй мандатнай камісіі—М. Чарняўскі.

З дакладам і садакладам на тэму «Аб рашэннях II Усебеларускай палітычнай канферэнцыі» выступілі А. Сідарэвіч і Я. Запруднік. Выступленне «Аб палітычным становішчы ў Беларусі» зрабілі З. Пазьняк і А. Трусаў. Свае меркаванні «Аб будучым канстытуцыйна-дзяржаўным ладзе ў Рэспубліцы Беларусь» выказалі ў якасці дакладчыка і садакладчыка А. Дабравольскі і В. Голубеў. Шматлікія аспекты сённяшняга сацыяльна-палітычнага становішча ўдакладнілі дэлегаты ад беларускіх палітычных партый. Цікавымі былі выступленні прадстаўнікоў беларускага замежжа, якія ўсхваляваны гаварылі аб лёсе нашай дзяржаўнасці і дэмакратыі.

Вынікам работы канферэнцыі з'явіліся тры рэзалюцыі. У першай з іх—«Аб рашэннях II Усебеларускай палітычнай канферэнцыі»—канстатавана, што пастанова аб прызнанні бальшавіцкага рэжыму была гістарычнай памылкай, актам празмернай даверлівасці бальшавікам і адзначана, што Рада БНР павінна працягваць сваю дзейнасць да таго часу, пакуль у Беларусі не будуць праведзены дэмакратычныя выбары ў новы парламент. У рэзалюцыі «Аб палітычным становішчы ў Беларусі» зроблена яго падрабязная ацэнка. Рэзалюцыя «Аб дзяржаўным і канстытуцыйным ладзе Рэспублікі Беларусь» сцвярджае, што галоўнай прычынай крызісу ў краіне з'яўляецца панаванне старой палітычнай і эканамічнай сістэмы і прапаноўваюцца захады, якія, на думку удзельнікаў канферэнцыі, неабходна зрабіць для пабудовы дэмакратычнай і цывілізаванай беларускай дзяржавы.

**Выканкам БСДГ.**

(Дакументы канферэнцыі друкуюцца на 2-й старонцы)



## Віной—не антыпольскія настроі

З памятнага знака, устаноўленага ў Віцебску ў гонар першага (і адзінага) палёту савецка-польскага экіпажа, знік бронзавы надпіс. Мажлівая прычына крадзяжу—імкненне некаторых узбагаціцца на продажы дарагіх каляровых металаў.

**А. МІКОЛАЎ.**

## Не жадай іншаму...

«Каб ты перавярнуўся са сваім аўтобусам, гад!»—з лютай злосцю ўсклікнула жанчына сярэдніх гадоў. Яна не здолела своечасова набыць білет у касе і хацела зрабіць гэта непасрэдна вадзіцеля. Але той даволі груба выштурхнуў яе з «Ікаруса». Чаму так адбылося?

Вадзіцелям забаранілі абілечваць пасажыраў пры пасадцы на аўтавакзале, а ў выпадку парушэння гэтай забароны іх (вадзіцеляў і пасажыраў) могуць пакараць салідным штрафам. Зразумела, што шафёры не надта хочуць цяпер рызыкаваць. А ў нашым выпадку жанчына нізавошта не хацела дабраахвотна пакінуць салон аўтобуса. Таму вадзіцель, каб не затрымліваць з-за аднаго чалавека рэйс, вымушаны быў абысціся з ёй не надта ласкава.

У наш тлумны, мітуслівы, і нялёгкі час цяжка бывае захаваць спакой і не даць волю эмоцыям. Мы робімся усё больш знерваванымі і нецярпімымі адзін да аднаго. Тут хочацца нагадаць мудрую высновy: «Не жадай і не рабі іншым таго, чаго не хочаш сабе!»

Але калі глянуць на праблему глыбей і задумацца: што з намі робіць сістэма, у якой мы усе, радавыя грамадзяне, жывём?

Упэўнены, што шафёр ніколі не выкінуў бы бедную жанчыну з аўтобуса, калі б гэта быў яго ўласны аўтобус. Каб такіх прыватных аўтобусаў было б шмат і каб была здаровая канкурэнцыя паміж вадзіцелямі. Калі б яны ведалі, што у любы момант страцяць кліента, які пяройдзе да канкурэнта, то не было б такіх канфліктаў, і жыццё наша стала б чалавечым.

## Радасць пасажыраў—адзін дзень

Абмен грошай пацягнуў за сабой акругленне цэнаў. Нешта падобнае адбывалася на пачатку бягучага года, калі зніклі металічныя манеты. І што характэрна, дзяржава і тады, і цяпер, мабыць, не застаецца ў пройгрышы. Мала таго, што растуць цэны на тавары і паслугі, дык дадаткова ў нас адбіраюць заробленыя грошы шляхам розных акругленняў. І тут не абышлося без шараханняў у розныя бакі.

Вось канкрэтны прыклад. Да 28 ліпеня білет на прыгарадны аўтобус ад Віцебска да вёскі Вароны каштаваў 33 рублі. У сераду, 28 ліпеня, адбылося падзешаўленне—ён стаў каштаваць 30 рублёў. А ўжо на наступны дзень кошт склаў 35 рублёў.

**А. ЯСНЫ.**

## «Богатырь» робіцца «Асілкам»

На фасадзе дома № 64 па Маскоўскаму праспекту, у якім размешчаны магазін «Асілак», старыя абшарпаныя рускамоўныя надпісы заменяюцца патроху на беларускія: «одежда» на «адзенне», «трикотаж»—«трыкатаж», «обувь»—«абутак». Засталіся яшчэ «парикмахерская», «звукозапись», «продукты». Як бачым, зроблена палавіна справы. Пасля замены на фасадзе застаюцца сляды ад ранейшых літар: пэўна, першыя надпісы рабіліся з разлікам на даўжэйшы час, чым атрымалася на самой справе.

**А. Б.**

**Пра гэтую канферэнцыю пісалі нямногія і няшмат. Ейныя матэрыялы засталіся па-за ўвагай афіцыйнай прэсы.**

**Чаму!**
**Прычына—дух дакументаў незалежніцкі, дэмакратычны, апазіцыйны. Ды што гаварыць! Яны перад вамі.**

# АБ ПАЛІТЫЧНЫМ СТАНОВІШЧЫ Ў БЕЛАРУСІ

## Рэзалюцыя III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі

Пасьля аднаўленьня ў жніўні 1991 г. незалежнасьці палітычнае становішча ў Беларусі вызначаецца наступнымі галоўнымі чыньнікамі:

1. Істотныя зьмены ў міжнародным праўным статусе Беларусі ня выклікалі адпаведных унутрыпалітычных зьменаў. Уладу трымае абраны яшчэ ў часы бальшавіцкай імпэрыі Вярхоўны Савет і створаны ім намэнклятурны ўрад. Фармальнае прыпыненьне дзеинасьці кампартыі не павяло за сабою кадравага абнаўленьня органаў выканаўчай і судовай улады, а таксама мясцовага кіраваньня.

Захавалася і нават узмацнілася эканамічная залежнасьць сродкаў масавай інфармацыі ад ураду, што амаль цалкам пазбавіла іх толькі што атрыманай свабоды.

2. Неадпаведная дэмакратычным памкненьням нашага народу аджылая сыстэма не праводзіць неабходныя эканамічныя рэформы і не замацоўвае дзяржаўную незалежнасьць незалежнасьцю гаспадарчаю. Гэта выклікае няўмольны спад вытворчасьці. Не прымаюцца найважнейшыя законы аб разьдзяржаўленьні прамысловасьці, гандлю й сфэры паслугаў, аб прыватнай уласнасці на зямлю, якая б адчыняла дарогу разьвіцьцю таварнай гаспадаркі, аб увядзеньні нацыянальнай валюты.

3. Вярхоўны Савет і ўрад не ствараюць праўных падстаў для прыцягненьня ў краіну замежных капіталаў і інвэставаньня новых вытворчасьцяў. Яны карыстаюцца кожнаю магчымасьцю атрымаць дзяржаўныя крэдыты, бясьплённа выдаткуючы іх на падтрымку паміраючай каманднаразьмеркавальнай эканомікі і свайго існаваньня. Урад пераўтварае ў даўжнікоў замежных краін будучыя пакаленьні беларусаў і ўскладае на іх адказнасьць за сваё бяздарнае кіраваньне.

4. Шырокі размах набыў працэс незаконнай прыватызацыі, якую ў народзе называюць «прыхватызацыяй». Да яго маюць дачыненьне ў першую чаргу прадстаўнікі чынавенства, якія карыстаюць з адсутнасьці праўнай базы рэформаў, з дэфіцыту і свайго дачыненьня да разьмеркавальных мэханізмаў.

Разгул «прыхватызацыі» і спэкуляцыі дзяржаўнаю маёмасьцю выклікаў рост злачыннасьці і карупцыі, якая ахоплівае ўжо ўрадавыя структуры і вядзе да стварэньня мафіі.

5. Існуючая ўлада, забараніўшы 29 кастрычніка 1992 г. рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах вышэйшага органу дзяржаўнай улады Беларусі на падставе дэмакратычнага выбарчага закону, распрацаванага Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, за правядзеньне якога выказалася больш,як 442 тысячы грамадзянаў Рэспублікі Беларусі, груба парушыла заканадаўства, правы асобы і стварыла і Беларусі сытуацыю палітычнага тупіку.

У выніку супрацьпраўнага рашэньня Вярхоўны Савет* пазбавіўся падставаў для існаваньня. Усе прынятыя ім пасьля 29 кастрычніка 1992 году рашэньні патрабуюць ратыфікацыі будучым дэмакратычным парлямантам Рэспублікі Беларусі**

Далейшае існаваньне гэтага Вярхоўнага Савету стварае небясьпечнае і нестабільнае становішча ды пагражае ўнутраным і зьнешнім інтарэсам дзяржавы.

6. Шукаючы выйсьце з гэтага стану, намэнклятурны ўрад дзеля захаваньня ўлады імкнецца адрадзіць палітычную і вайсковую залежнасьці Беларусі ад Расеі, што пагражае стратаю дзяржаўнага сувэрэнітэту і паглыбленьнем эканамічнага крызісу. Ён спрабуе перакласьці адказнасьць за сваю палітычную нядзеяздольнасьць на Маскву і пазьбегнуць адказнасьці за правалы сваго кіраваньня. Ён адмоўна ставіцца да нацыянальна-культурнага будаўніцтва, прымае захады дзеля наданьня расейскай мове статусу другое дзяржаўнае мовы, каб знайсьці падтрымку сярод шавіністычных колаў, зарыентаваных на Маскву.

Усё гэта сьведчыць, што мы перажываем час, калі фактычна вырашаецца лёс нашай Бацькаўшчыны.

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі лічаць неабходным:

—адмену незаконнага рашэньня Вярхоўнага Савету ад 29 кастрычніка 1992 году;

—правядзеньне не пазьней, як увесну 1994 году, выбараў у новы парлямант Беларусі, які будзе працаваць на прафэсійнай аснове, і тэрміновае прыняцьце ім Канстытуцыі краіны;

—імкнуцца да нэўтралітэту, як абвешчана ў Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі, не дапусьціць уваходу Беларусі ў вайсковы саюз з Расеяй ды іншымі краінамі СНД***;

—прыняцьце важнейшых законаў сацыяльна-эканамічнага характару ды істотнае паскарэньне працэсу разьдзяржаўленьня вытворчасьці, гандлю і сфэры паслугаў, стварэньне ўмоваў для запуску мэханізму канкурэнцыі ў гаспадарцы;

—забесьпячэньне рэальнай свабоды слова ў Беларусі;

—пашырэньне і паглыбленьне працэсу нацыянальна-культурнага адраджэньня праз строгае выкананьне Закону аб мовах у Рэспубліцы Беларусі, рэформу ўсёй сыстэмы адукацыі і выхаваньня, падтрымку нацыянальнага мастацтва.

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі заклікаюць дэпутатаў Вярхоўнага Савету зразумець сутнасьць гістарычнага моманту, які перажывае краіна, усьвядоміць сваю асабістую віну за паглыбленьне гаспадарчага і палітычнага крызысу. Удзельнікі канфэрэнцыі заклікаюць іх або выканаць свой абавязак і прыняць вышэйзгаданыя законы і пастановы, або, прыняўшы выбарчы закон, праект якога вынесены на рэфэрэндум, прызначыць датэрміновыя выбары.

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі заклікаюць усе дэмакратычныя сілы ў Рэспубліцы Беларусі да супрацоўніцтва і адказных палітычных паводзінаў у гэты крытычны час.

---

* Дэлегацыя Аб'яднанай Дэмакратычнай Партыі Беларусі лічыць патрэбным закончыць гэты сказ словамі «паставіў пад сумненьне сваю легітымнасьць».

** Партыя Народнай Згоды не падпісвае другі абзац п. 5.

*** Партыя Народнай Згоды лічыць патрэбным абмежаваць гэты сказ словамі «імкнуцца да нэўтралітэту, як абвешчана ў Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі».

# АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ І КАНСТЫТУЦЫЙНЫМ ЛАДЗЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСІ

## Рэзалюцыя III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі,

аднаўляючы перапыненую дзесяцігодзьдзямі традыцыю правядзеньня Усебеларускіх Канфэрэнцыяў з удзелам палітычных сілаў краіны і эміграцыі,

адстойваючы незалежнасьць Бацькаўшчыны як найбольшую вартасьць, як плён цяжкай барацьбы пакаленьняў беларусаў, як шанц для нашай краіны, які нельга змарнаваць,

падзяляючы пераканаdebugньне ў тым, што дэмакратыя, гарантаваныя асноўныя правы чалавека, у тым ліку права ўласнасьці, зьяўляюцца неад'емнымі атрыбутамі цывілізаванае дзяржавы,

канстатуюць, што галоўная прычына сучаснага крызысу ў Рэспубліцы Беларусі—панаваньне старой палітычнай і эканамічнай сыстэмы, заснаванай на манаполіі дзяржаўнай уласнасьці і ўладзе камуністычных сілаў. Гэтая сыстэма зьяўляецца галоўнаю перашкодаю для палітычных і эканамічных рэформаў. Абсалютна неабгрунтаванымі ёсьць сьцьверджаньні, быццам у Беларусі ўжо існуе дэмакратыя. Яе няма ні ў эканамічным, ні ў палітычным жыцьці. Ад былой камуністычнай намэнклятуры, якая стаіць ва ўладзе і распараджаецца асноўнымі сродкамі вытворчасьці, сыходзіць галоўная пагроза ня толькі зародкам дэмакратыі ў Беларусі, але і самой беларускай дзяржаўнасьці.

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі пагаджаюцца ў наступным:

1. Незалежнасьць Беларусі, яе прызнаньне і аўтарытэт у сьвеце, гістарычную пэрспэктыву беларускаму народу зможа забясьпечыць праўная дэмакратычная ўнітарная Беларуская дзяржава з рэспубліканскаю формаю кіраваньня.

2. Годнасьць, правы і свабоды чалавека, у тым ліку права ўласнасьці, павінны быць найвышэйшаю каштоўнасьцю Беларускае дзяржавы.

3. Паводле фундаментальных прынцыпаў дэмакратыі, у Беларускай дзяржаве неабходна ажыцьцявіць рэальны падзел заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады, ураўнаважыць іх уплыў.

4. Далейшая дэмакратызацыя немагчымая без стварэньня сыстэмы мініцыпальнага самакіраваньня замест цяперашніх саветаў.

5. Заканадаўчая ўлада павінна належаць парляманту, які будзе працаваць на прафэсійнай аснове.

6. Увядзеньне пасады Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі магчымае пасьля новых, дэмакратычных выбараў у парлямант. Прэзыдэнта належыць абраць усенародным галасаваньнем.

7. Урад Рэспублікі Беларусі будзе зацьвярджацца парлямантам і адказваць перад ім за сваю дзейнасьць.

8.Належыць стварыць незалежную судовую сыстэму.

9. Дзеля дасягненьня гэтых мэтаў неабходная канстытуцыйная рэформа.

Новую Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь можа прыняць новы, абраны паводле дэмакратычнага выбарчага закону, вышэйшы орган дзяржаўнай улады.

10. Выбары ў вышэйшы орган дзяржаўнай улады належыць правесьці паводле зьмешанай прапарцыйна-мажарытарнай выбарчай сыстэмы.

11. Мы выступаем за канстытуйна замацаваны нэўтралітэт Беларусі, за стварэньне войска, адданага незалежнай Беларускай дзяржаве.

Мы лічым неабходным рэальнае ажыцьцяўленьне законаў, ськіраваных на абарону беларускай дзяржаўнасьці.

12. Канстытуцыйнага замацаваньня патрабуе палажэньне пра тое, што Беларуская дзяржава гарантуе і адстойвае нацыянальна-культурную пэрспэктыву беларускага народу, нясе адказнасьць за лёс беларусаў за межамі Рэспублікі Беларусі, а таксама гарантуе задавальненьне культурных патрэбаў нацыянальных меншасьцяў у краіне.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*Рэзананс*

# Хто лепшы?

У «Выбары» № 23 змешчана мая заметка «Кулакоў за калектыўную бяспеку» аб прэс-канферэнцыі старшыні Віцебскага абласнога Савета. У хуткім часе пасля выхаду гэтага нумара газеты ў рэдакцыю патэлефанаваў прэс-сакратар аблсавета. Ён паўшчуваў мяне за тое, што я назваў У. Кулакова «тыповым прадстаўніком наменклатуры», спытаўся, якая гэта ацэнка—станоўчая ці адмоўная, заявіў, што старшыня аблвыканкама вельмі кампетэнтны і дасведчаны чалавек і што ў гэтым сэнсе яму няма роўных сярод прадстаўнікоў дэмакратычных плыняў Віцебшчыны. Наконт кампетэнтнасці—магчыма, і так.

Але ж гэтую, безумоўна, станоўчую рысу можна выкарыстоўваць па-рознаму. Можна дэманстраваць яе на прэс-канферэнцыях і ў дакладах на сесіях, нарадах, паседжаннях. І на гэтым абмежавацца. Што, як мне здаецца, і робіць цяперашні старшыня аблсавета.

Канкрэтны прыклад. На згаданай прэс-канферэнцыі У. Кулакоў нічога не адказаў на пытанне па справе «канфлікту» з законам сакратаркі яго першага намесніка. Адразу ж перадаў мікрафон пракурору вобласці. Склалася ўражанне, што старшыня аблвыканкама вельмі спрытна ўхіліўся ад таго, каб даць сваю ацэнку гэтаму ўчынку супрацоўніцы аблвыканкама. Канешне ж, ён рэаліст і не будзе секчы сук, на якім сядзіць. Бо размова ідзе пра аблвыканкам.

На апошняй сесіі аблсавета адзін з дэпутатаў прапанаваў У. Кулакову падшукаць сабе замену. Але, па вялікаму рахунку, справа не ў Кулакове. Нават калі яго пасаду зойме нехта іншы, да лепшага наўрад ці што зменіцца. Савецкая ўлада ў яе цяперашнім выглядзе—галоўная перашкода на шляху дэмакратычных пераўтварэнняў у нашым грамадстве. Неабходна капітальна дэманціраваць усю цяперашнюю антыдэмакратычную, створаную кампартыяй сістэму дзяржаўнай улады.

Кіраўнікі рэгіёнаў павінны выбірацца ўсенародным галасаваннем. Трэба рэальна забяспечыць падзел улады на выканаўчую, заканадаўчую і судовую з абсалютнай незалежнасцю апошняй—суд павінен падпарадкоўвацца толькі закону. Дзяржава павінна падтрымліваць незалежную прэсу, калі гэта дзяржава хоча быць моцнай. Толькі тады кіраўнікі розных рангаў будуць паважаць закон.

Але рыба, як вядома, гніе з галавы. Таму рэальныя змены ў сістэме дзяржаўнай улады магчымы толькі пасля выбараў на шматпартыйнай аснове новага дэмакратычнага парламента Беларусі. Цяперашні Вярхоўны Савет сябе поўнасцю вычарпаў (яго апошняя сесія гэта яскрава паказала) і павінен, як мага хутчэй, сысці са сцэны.

**А. БУКАЧОЎ.**




СТАРОНКА ВІЦЕБСКАГА КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКАГА КЛУБА «УЗГОР'Е» ВЫПУСК № 6*


Рэканструкцыя Дабравешчанскае царквы А. М. Паўлінава.

Ю. Якімовіч

# ВІЦЕБСКІЯ ШКОЛЫ ДОЙЛІДСТВА

Пад школай дойлідства мы разумеем кола майстроў, аб'яднаных вакол пэўнага архітэктурна-мастацкага цэнтра, творчасці якіх уласцівы адметныя асаблівасці, невядомыя ў іншых аналагічных цэнтрах. Таму стварэнне архітэктурна-мастацкай школы сведчыць пра пэўную сталасць горада, яго высокае палітычнае і мастацкае значэнне сярод іншых гарадоў таго ж узроўню. Далёка не ўсім, нават і буйным гарадам, удалося сфарміраваць сваю асобную школу ў галіне архітэктуры і выяўленчага мастацтва. У XII ст. такія школы мелі толькі Полацк і Гародня. Іх помнікі добра даследаваны вучонымі, даўно ўвайшлі ў «залаты фонд» нашай культурнай спадчыны. Віцебск жа ў навуковых працах па гісторыі архітэктуры амаль заўсёды стаяў недзе ў баку, то дапасоўваючыся да Полацкай школы, то адыходзячы ад яе. Але нікому ніводзін з даследчыкаў не дапускаў нават думкі пра тое, што Віцебск таксама стварыў сваю самастойную школу, прычым не меней арыгінальную за Полацкую.

Адным з унікальных помнікаў гэтай школы з'яўлялася царква Дабравешчання Прасвятой Багародзіцы. Яе руіны і цяпер стаяць на беразе Дзвіны, на тэрыторыі колішняга Ніжняга замка. Пабудавана яна ў XII ст., але мясцовы летапіс, складзены М. Панцырным, прыпісвае заснаванне храма кіеўскай княгіне Вользе ў X ст. Легенда гэтая, відаць, віцяблянам вельмі падабалася, таму і ўтрымлівалася на працягу некалькіх стагоддзяў.

Царква з'ўлялася саборнай, у ёй захоўваліся каралеўскія граматы і гарадскія кнігі. У XIV ст. храм быў у значнай меры папсаваны. Таму тагачасны віцебскі князь Альгерд аднавіў будынак, прычым, верагодна, толькі яго верхнюю частку разам са скляпеннямі і дахам. Гэтая перабудова гісторыкам XVI ст. М. Стрыйкоўскім успрынята як пабудова новага храму, таму ён у сваёй «Хроніцы» прыпісаў будаўніцтва царквы Альгерду.

Першапачаткова Дабравешчанская царква мела ўсе адзнакі візантыйскай архітэктуры. Можна нават вызначыць раёны, адкуль прыйшоў такі архітэктурны стыль у Віцебск. Відаць, гэта былі Грэцыя або Балгарыя, дзе ў першай палове XII ст. пашырылася будаўнічая тэхніка, аналагічная тэхніцы муроўкі Дабравешчанскай царквы.

Усе сцены і слупы ўнутры храма ўпрыгожвалі дзівосныя фрэскі. Ім была ўласцівая свабодная жывапісная манера пісьма, празрыстая каларыстычная гама, правільныя прапорцыі малюнка. Такімі рысамі валодала ў канцы XI—пачатку XII ст. Кіеўская жывапісная школа, цесна звязаная з візантыйскім мастацтвам. Разам з тым у фрэсках прасочвалася імкненне да яркіх колеравых спалучэнняў, што характарызавала новы напрамак у развіцці манументальнага жывапісу старажытнай Русі другой паловы XII—пачатку XIII ст. Відаць, разам з візантыйскімі майстрамі ў размалёўцы Дабравешчанскай царквы прымалі ўдзел і полацкія мастакі. Такая выснова зроблена ў выніку даследавання структуры фрэскавай грунтоўкі.

Дабравешчанская царква неаднаразова перабудоўвалася і паступова страціла свае візантыйскія архітэктурныя формы. Так, у 1619 г. яе перабудавалі пад уніяцкую царкву. На «чарцяжы» Віцебска 1664 г. ёсць схематычная выява будынка, завершанага не ранейшымі паўцыліндрычнымі скляпеннямі, а звычайнымі двухсхільнымі дахамі, з купалам у цэнтры. Каля царквы стаяла драўляная двух'ярусная званіца, завершаная шатром і купалкам. Яна згарэла пры пажары 1698 г. Відаць, ад гэтага пажару пацярпеў і сам храм, бо ў 1714 г. віцебскі ваявода і войт Казімір Аляксандр Пацэй далучыў да парафіі мясцовыя рамесніцкія цэхі з тым, каб рамеснікі сваім коштам капітальна адрамантавалі святыню і набылі для яе новыя алтары. У 1759 г. Хрысціна Глушынская, жонка ваўкавыскага падстольніка, ахвяравала на рамонт храма 500 злотых. У выніку перабудовы храм набыў барочныя формы, яго галоўны фасад завяршылі дзве ярусныя вежы.

У 1831 г. царква вернута праваслаўным, а ў 1849 г. у ёй абсталявалася абшчына адзінаверцаў. У 1862 г. завяршылася чарговая капітальная перабудова помніка, у выніку якой на галоўным фасадзе замест вуглавых барочных вежаў XVIII ст. з'явілася званіца над прытворам, а над цэнтральнай часткай храма ўзвялі даволі груваслы драўляны купал на барабане.

Восем доўгіх стагоддзяў прастаяла Дабравешчанская царква на беразе Дзвіны. Перажыла яна шмат войнаў, у тым ліку і апошнюю — Вялікую Айчынную. Нават фашысты абмінулі яе, але не абмінулі сучасныя «атэісты». 20 снежня 1961 г. Савет Міністраў БССР па прапанове Міністэрства культуры, Дзяржбуда і Акадэміі навук выключыў царкву са спісу ахоўваемых помнікаў гісторыі і культуры. І неўзабаве царква была знішчана.

Доўгі час Дабравешчанская царква лічылася адзіным помнікам такога тыпу на Беларусі. Але выявілася, што ў XII ст. у аналагічнай тэхніцы ў Віцебску пабудаваны яшчэ два храмы. Адзін з іх размяшчаўся на тэрыторыі Верхняга замка і вядомы ў гісторыі як царква св. Міхаіла. Рэшткі збудавання ўпершыню былі знойдзены ў 1895—94 гг. вядомым віцебскім краязнаўцам і гісторыкам А. П. Сапуновым, які раскапаў падмуркі, лесвіцу і падлогу, выкладзеную керамічнай пліткай. У 60—80-я гг. нашага стагоддзя знойдзены фрагменты муроўкі з плінфы і вапняковых блокаў, керамічныя пліткі падлогі, смальта, аконнае шкло, фрагменты купальнага пакрыцця. Даследчыкамі ўстаноўлена, што шкло прывезена з Германіі, з смальта—з Візантыі.

На аснове аналізу рэштак храма і іншых археалагічных знаходак можна ў агульных рысах рэканструяваць гэтае цікавае збудаванне. Безумоўна, царква св. Міхаіла ўяўляла сабой традыцыйны для старажытнарускага дойлідства крыжова-купальны храм з адным цэнтральным купалам, накрытым лістамі са сплаву волава і свінца. Своеасаблівая была вырашана падлога царквы, якую пакрывалі жоўтыя і зялёныя пліткі разнастайных форм, галоўным чынам прамавугольныя і трохвугольныя. Алтарная частка дэкаравана пазалочанай мазаікай. Інтэр'ер асвятляе невялікія круглыя акенцы з зеленаватага шкла, якія афарбоўвалі струмені сонечнага святла і пэўным чынам вызначалі колер светлавых блікаў і рэфлексаў на сценах і падлозе.

Храм прастаяў на сваім месцы ўсяго каля двух стагоддзяў. Ён знішчаны ў часы пажара Віцебска 1335 г. або пры аблозе горада войскам князя Вітаўта ў 1396 г., калі гарматы скрушылі амаль дашчэнту многія пабудовы Верхняга замка. Пазней царкву адбудавалі, але ўжо не з цэглы і каменя, а з дрэва. Вядома, што ў ёй знаходзіліся партрэты князя Альгерда і яго жонкі Ульяны,— адны з першых твораў партрэтнага мастацтва на Беларусі. У пачатку XVII ст. гэты храм згарэў, на яго месцы пабудавалі новую драўляную царкву, але і яна загінула пры пажары 1708 г., калі Пётр I загадаў свайму капітану Салаўёву выпаліць Віцебск.

Трэці храм аналагічнай пабудовы знаходзіўся на ўсход ад Міхайлаўскай царквы ў раёне сучаснай плошчы Свабоды. Гэта— царква Параскевы Пятніцы, пабудаваная ў першай палове XII ст. Колькі часу яна прастаяла—невядома. У XVII ст. на гэтым месцы знаходзілася ўжо драўляная царква, якая ў 1640 г. перабудавана пад езуіцкі касцёл. Падмуркі мураванай царквы знойдзены пад час археалагічных раскопак.

Такім чынам, у Віцебску ў XII ст. узведзены тры царквы аналагічнай архітэктуры, якія візуальна стваралі дзве асноўныя кампазіцыйныя восі ўздоўж Дзвіны і Віцьбы. Падобная адна на адну, яны стварылі адзіны ансамбль, надаўшы ўсяму гораду абагульнены і арыгінальны вобраз. Такі прыём у старажытнарускім дойлідстве сустракаўся не часта, на тэрыторыі Беларусі ён ужыты толькі ў Полацку і Гародні. Віцебск у гэтым сэнсе

* Папярэдні выпуск лічыць пятым.

1



2



стаў трэцім горадам.

Чаму Віцебск не пайшоў услед за Полацкам, не пераняў яго архітэктурны стыль?

Тлумачыцца гэта чыста палітычнымі прычынамі. У 1101 г. памёр славуты полацкі князь Усяслаў Чарадзей, у выніку чаго ў Віцебску пачаў княжыць яго сын Святаслаў. Новы віцебскі князь імкнуўся да незалежнасці ад Полацка. Таму ён не мог будаваць так, як будавалі палачане, бо гэта б прынізіла значэнне Віцебска ў вачах сучаснікаў. Таму князь запрашае майстроў з Грэцыі або Балгарыі (Усяславічы былі пароднены з візантыйскім імператарам), якія ўзвялі храм Міхаіла. Потым узніклі Дабравешчанская і Пятніцкая цэрквы. У выніку гэтага будаўніцтва ў Віцебску склалася мясцовая арцель, якая карысталася вядомасцю і за межамі княства. Так, віцебскія майстры ў XII ст. змуравалі Барысаглебскую царкву ў Наваградку, а ён у тыя часы ўсё больш набываў значэнне самага магутнага горада ва ўсёй Заходняй Русі, сталіцы будучага Вялікага Княства Літоўскага. Улічваючы гэта, можна з упэўненасцю сказаць, што ў Віцебску ў XII ст. склалася трэцяя на тэрыторыі Беларусі архітэктурная школа. Яна пакуль што ў навуцы невядомая, але выспеў час паставіць і станоўча вырашыць гэтае пытанне.

У XVI—першай палове XVII ст. у Віцебску фарміруецца другая архітэктурная школа, на гэты раз у галіне драўлянага будаўніцтва. Фарміраванню рысаў гэтай школы садзейнічала будаўніцтва віцебскіх замкаў (Верхняга, Ніжняга і Узгорскага) і асабліва забудова Ратушнай плошчы на Узгор'і. Замкавыя вежы ўяўлялі сабой высокія манументальныя збудаванні, нярэдка яруснай кампазіцыі. Таму і іншыя будынкі дойліды імкнуліся зрабіць такімі ж, надаць ім вертыкальны характар. У гэтым і выявіліся асноўныя рысы другой архітэктурнай школы Віцебска.

Галоўным кампазіцыйным цэнтрам Узгор'я з канца XVI ст., калі ў 1597 г. віцябляне атрымалі магдэбургскае права, стала драўляная ратуша. Праўда, яе ў 1624 г. разабралі—так адпомсціў урад Рэчы Паспалітай за забойства біскупа Іязафата Кунцэвіча. На «чарцяжы» 1664 г. паказана новая віцебская ратуша—перабудаваны гасціны двор. Яна была вырашана кампактным квадратным у плане двухпавярховым аб'ёмам, завершаным высокім шатровым дахам, гранёным двух'ярасным бельведэрам і купалком са шпілем і гербам. Вышынны аб'ём ратушы ўдала пераклікаўся з замкавымі вежамі, якія выдатна спалучаліся з выразным узгорыстым рэльефам Віцебска.

На поўнач ад гасцінага двара і ратушы стаяла драўляная Увядзенская царква, пабудаваная пасля 1618 г. Яна захоўвалася яшчэ ў канцы XVIII ст. у квартале, які непасрэдна прылягаў да ратушы з поўначы. Тут калісьці размяшчаліся старажытныя могілкі. Царква ўяўляла сабой традыцыйнае трохзрубавае збудаванне ярусна-восевай кампазіцыі. Яе цэнтральным элементам з'яўляўся сярэдні чацверыковы аб'ём, які складаўся з дзвюх частак: больш шырокай ніжняй і вузейшай верхняй, што падзяляліся паміж сабой прычолкам. Над верхняй часткай узвышаўся шатровы дах, увянчаны купалам на светлавым барабане. Прыкладна такі ж характар меў і алтарны аб'ём, хаця ён не дасягаў такіх памераў, як папярэдні. З захаду стаяла высокая чацверыковая вежа-званіца з аналагічным дахавым завяршэннем. Яна ў верхняй частцы мела «ізбіцу»—спецыяльнае абарончае памяшканне з кансольна навісаючымі над ніжняй часткай зруба сценамі, з абламамі і байніцамі. Як паказана на «чарцяжы» 1664 г., званіца стаяла не па восі храма, а прылягала да яго паўночна-заходняга кута. У выніку стварылася надзвычай выразная вертыкальна-ярусная кампазіцыя, у якой кожны аб'ём трактаваўся самастойнай вежай. Безумоўна, такія архітэктурныя формы прыйшлі з абарончага будаўніцтва.

Заканамерна ўзнікае пытанне: ці быў віцебскі архітэктурны стыль цалкам арыгінальны, ці сустракаліся недзе яшчэ аналагічны формы? Калі пагартаць старонкі гісторыі сусветнай архітэктуры, то можна прызнаць, што найбольш блізка да віцебскіх стаялі храмы карпацкіх бойкаў, якія лічацца надзвычай старажытнымі па паходжанню. Але такія формы не былі непасрэдна занесены ў Віцебск з Карпатаў—яны тут з'явіліся ў выніку самастойнага развіцця. Асіметрычная пастаноўка званіцы адносна асноўнага корпуса храма не сустракалася ў карпацкай архітэктуры. Відаць, віцебскія дойліды ўяўлялі сабе званіцу як нейкі самастойны аб'ём, які павінен быў існаваць аўтаномна ад храма. Верагодна, гэта звязана з тым, што званіцы выконвалі нейкія асобныя функцыі, не ўласцівыя ў цэлым культаваму збудаванню. Напрыклад, званіца магла выкарыстоўвацца ў якасці дазорнага і абарончага збудавання, у ёй маглі захоўвацца тыя рэчы, якія нельга было змяшчаць у храме.

Формы, адзначаныя ва Увядзенскай царкве, атрымалі яшчэ больш яскравае развіццё ў архітэктуры Уваскрасенскай (рынкавай) царквы. Яе будаўніцтва прыпадае на другую палову XVI або пачатак XVII ст. Стаяла святыня на паўднёвы захад ад ратушы. У інвентары маёмасці Полацкай епархіі 1618 г. яна лічылася ўніяцкай.

Цэнтральны аб'ём Уваскрасенскай царквы вырашаны такім жа чынам, што і Увядзенскай, толькі з тым адрозненнем, што завяршэнне яе больш масіўнае, дах набыў выгіб, гнуткія лініі, як у тагачасных гатычных саборах. Алтарны зруб вырашаўся высокай манументальнай вежай. Званіца, у адрозненне ад Увядзенскай царквы, больш арганічна злучалася з асноўным аб'ёмам, хаця і не пастаўлена яшчэ строга па падоўжанай восі. У ёй цікава адзначыць размежаванне функцый ніжняга і верхніх ярусаў. Ніжні ярус з'яўляўся тамбурам або паперцю, праз яго ўваходзілі ў храм, прычым уваходныя дзверы зроблены не ў пярэдняй, а ў бакавой сцяне. Вышэйшыя ярусы не злучаліся з ніжнім знутры, на іх вяла адкрытая лесвіца ўздоўж дзвюх сумежных сцен будынка. У самым версе вежы размяшчалася званіца. У яе шатровым пакрыцці існавалі спецыяльныя «галаснікі»—праёмы, якія адчыняліся пры набажэнствах, калі гучалі царкоўныя званы. А вось два ярусы паміж званіцай і паперцю хутчэй за ўсё з'яўляліся абарончымі, бо расчляняліся вузкімі праёмамі тыпу байніц.

На захад ад Уваскрасенскай стаяла Спаса-Праабражэнская царква. Яна згадваецца ў дакуменце 1552 г. як існуючая з нагоды надання ёй зямлі віцебскім мешчанінам Фёдарам Якаўлевічам. У пачатку XVII ст. царква разбурана, таму і не трапіла ў інвентар валоданняў Полацкай епархіі 1618 г. Але ў наступным 1619 г. кароль Жыгімонт III даў грамату, паводле якой ён «мещаном тамошним витебским комником благословил направить церков опалую заложеня Преображения Господня и з пределом что у Николая за рекою Витьбою на посаде Узгорском у пирожном ряду имет склады звыклые на праздник светого архистратига Михаила и светого Семиона на опатре-что у Николая за рекою Витьбою на посаде Узгорском у пирожном ряду имеет склады звыклые на праздник светого архистратига Михаила и светого Семиона на опатрене церковных справ и на выховане (ўтрыманне) священника при той церкви, дьякона и дьяков, не мней теж и убогих в шпиталю». З гэтага дакумента відаць, што царква ў той час была ўніяцкай («в едностью с церковью Рымской»), пры ёй заснавана брацтва. Пасля адраджэння храм набыў формы заходняй готыка-рэнесансавай архітэктуры.

На «чарцяжы» 1664 г. прадстаўлены будынак падоўжна-восевай кампазіцыі, які складаўся з размешчаных па падоўжнай восі чацверыковых зрубаў званіцы, нефа і алтара. Высокія стройныя зрубы нефа і алтара накрыты двухсхільнымі дахамі, вокны размешчаны высока, амаль што пад карнізам. Паколькі алтарны зруб вузейшы за неф, то і дах над ім меў меншую вышыню. Вільчак даху над нефам у месцы прымыкання яго да даху над алтаром быў завершаны двух'ярусным купалам на высокім барабане. Званіца мела трох'ярусную кампазіцыю і складалася з двух ніжніх чацверыкоў і верхняга васьмерыка. Апошні расчляняўся высокімі арачнымі вокнамі і завяршаўся складаным купальным пакрыццём. Трэба адзначыць, што ў гэтым храме асіметрыя ў пастаноўцы званіцы, што назіралася ва Увядзенскай і Уваскрасенскай цэрквах, была пераадолена як архаічны прыём, у выніку чаго архітэктурныя формы храма сталі больш абагульненымі і адзінымі. Але, на наш погляд, пры гэтым Спаса-Праабражэнская царква страціла нейкую выразнасць, мясцовы каларыт, яе архітэктура стала больш схематычнай, наблізілася да аналагічных мураваных рэфармацкіх і каталіцкіх храмаў.

Такім чынам, Віцебск на працягу сваёй шматвяковай гісторыі з'яўляўся выдатным архітэктурна-мастацкім цэнтрам, адным з буйнейшых на Беларусі. Наяўнасцю не адной, а дзвюх архітэктурных школ не можа «пахваліцца» ніводзін з беларускіх гарадоў. Гэта падкрэслівае ўнікальнае значэнне Віцебска ў гісторыі беларускага дойлідства. На вялікі жаль, горад даўно страціў свае традыцыі і ператварыўся ў звычайны абласны цэнтр, са звычайнымі дамамі, вуліцамі і мікрараёнамі. То, мабыць, трэба ўспомніць былую славутасць і, пры магчымасці, адрадзіць яе?

3



4



5



Драўляныя цэрквы з «чарцяжа» Віцебска 1664 г.:
1. Увядзенская;
2. Міхайлаўская;
3. Праабражэнская;
4. Уваскрасенская;
5. Сімеонаўская.

*Гэта наша гісторыя*

# ЗЯМЛЯ ТУРАЎСКАЯ І НАВАГРАДСКАЯ

У часы Рагвалода Тураўская воласць належала Полацку. Паданне гаворыць аб тым, што Рагвалод прыйшоў у вусце Прыпяці і выслаў уверх па рацэ адну са сваіх дружын на чале з Турам, які і заснаваў горад пасярод дрыгавіцкай зямлі. У летапісу Тураў упершыню ўпамінаецца пад 980 годам.

Уладзімір, які перамог Рагвалода і стаў кіеўскім князем, далучыў Тураў з яго землямі да Кіева. Горад знаходзіўся на важным гандлёвым шляху з Кіева ў Польшчу, што спрыяла яго развіццю. Ён вёў гандаль з рознымі гарадамі і краінамі. Пры раскопках тут знойдзены прыбалтыйскі бурштын, валынскі шыферны сланец, прычарнаморскія амфары для віна і алею, кераміка з Сярэдняй Азіі, візантыйскае і сірыйскае шкло.

Дзякуючы шляхам зносін на рэках З. Дзвіне, Нёману, Прыпяці ўся Полаччына, а разам з ёй і Тураў, адчувалі заходні ўплыў. Ён рабіў Тураў тыповаю воласцю Полаччыны. Кіеўшчына ж мела яўна выражаны візантыйскі, усходне-паўднёвы кірунак. Таму кіеўскія князі, праводзячы сваю палітыку, трымалі на тураўскім пасадзе сваіх сыноў. Так, пры Уладзіміры Тураўскім князем быў Святаполк Уладзіміравіч (988 г.), які хутчэй за ўсё быў усынаўлёны пляменнік. Але Святаполк не спраўдзіў надзей Уладзіміра і стаў праводзіць палітыку, скіраваную на незалежнасць. Ён ажаніўся на дачцэ польскага караля Баляслава, што з аднаго боку адпавядала імкненню Уладзіміра гэтым дынастычным шлюбам замацаваць за сабой заваяваныя ў палякаў Чэрвеньскія гарады, а з другога боку гэта адпавядала і імкненню Баляслава з дапамогай зяця ўзмацніць свой уплыў на памежныя ўсходнія землі і дамагчыся там спакою, бо ён увесь час вёў вайну з немцамі на захадзе.

Разам з дачкою Баляслава, якая была хрысціянкай заходняга абраду (у той час ужо існавала розніца паміж усходняй і заходняй царквамі), у Тураў прыехаў і заходні біскуп Рэйнбэрн, які, верагодна, аказваў пэўны ўплыў і на Святаполка, і на яго акружэнне. Тураўцы добра памяталі сваю незалежнасць ад Кіева, і таму Святаполк мог на іх спадзявацца, дамагаючыся незалежнасці Турава. Уладзімір даведаўся пра гэтыя планы, раптоўна напаў на Святаполка, схапіў яго, ягоную жонку, Рэйнбэрна і пасадзіў іх у «поруб» (турму).

Пасля смерці Уладзіміра Святаполк, як старэйшы, займае кіеўскі пасад. Але браты на чале з Яраславам Мудрым выжылі яго з Русі. Ён становіцца выгнаннікам і гіне на чужыне. Святаполк быў прадстаўніком таго ж культурна-палітычнага кірунку, які праводзіла і Полаччына.

Знаходзячыся працяглы час пад уплывам Кіева, абцяжараная міжусобіцай, разрываннем і ўкарачэннем тэрыторыі, Тураўская зямля не загінула як палітычная і этнічная асобнасць. На тураўскім пасадзе перабывала шмат князёў. Найбольш адметным у сярэдзіне XII ст. быў Вячаслаў, сын Манамаха. У летапісу згадваецца, што ў гэты час Тураўскай зямлі належаць Берасце (Брэст), Драгічын, Клечаск, Рагачоў, Чартарыйск, а ў 1146 г.—і Уладзімір-Валынскі.

Выдатным тураўскім князем, заснавальнікам дынастыі тураўскіх князёў, быў Юры Яраславіч.

У час яго княжання Тураў вытрымаў дзесяцітыднёвую аблогу (1158 г.) кааліцыі князёў начале з кіеўскім князем Ізяславам Давыдавічам. Выстаяў і Пінск, які ў гэты час ужо становіцца другім буйным цэнтрам Тураўскай зямлі. Перамога тураўцаў азначала заваяванне незалежнасці ад Кіева. У 1162 г. Юры заключыў мір з кіеўскім князем Расціславам. Гэта было фактычнае прызнанне незалежнасці ад Кіева, што, між іншым, сведчыла аб эканамічнай і вайсковай магутнасці Турава і яго здольнасці адстойваць сваю незалежнасць. К гэтаму часу Тураўская зямля складалася з Тураўскага, Пінскага і Дубровіцкага ўдзелаў. Характэрным з'яўляецца і тое, што ніякай міжусобіцы паміж імі летапісамі не зафіксавана.

З XIII ст. выяўляецца вядучае месца ў Тураўскай зямлі Пінска, што тлумачылася больш выгадным яго геаграфічным размяшчэннем пры палітыка-эканамічных абставінах, якія змяніліся. Ранейшая залежнасць ад Кіева стала замяняцца залежнасцю ад Галіцка-Валынскага княства. Гэта прымусіла пінскіх князёў шукаць саюзнікаў для сваёй абароны. Такога саюзніка Пінск знаходзіць у верхнім Панямонні—Літве, якая была яго паўночным суседам (размова ідзе аб летапіснай Літве, размешчанай паміж Менскам, Навагрудкам, Крэвам і Слонімам, а не аб сучаснай тэрыторыі Летувіскай рэспублікі).

У XIII ст. сваім эканамічным і культурным развіццём сярод беларускіх земляў вылучаецца Наваградская зямля, якая пазней называлася Чорнай Руссю. У параўнанні з Полацкай і Тураўскай землямі, яна была адносна новым палітычным утварэннем.

У канцы I і пачатку II тысячагоддзяў н. э. тут было дамінуючым славянскае дрыгавіцка-крывіцкае насельніцтва. Сваім высокім развіццём Новаградская зямля была абавязана Полацку, аб чым сведчаць археалагічныя даследаванні. Выгаднае геаграфічнае становішча таксама спрыяла эканамічнаму, палітычнаму і культурнаму развіццю гэтага краю. У час пахода на Літву 1044 г. Яраслаў Мудры заснаваў тут горад Наваградак. Але гэта выклікала яшчэ большыя супярэчнасці паміж Кіевам і Полацкам, які меў інтарэсы ў Літве. Наваградак яшчэ доўга заставаўся пад уладай Кіева, і нават спроба Глеба Менскага ў 1119 г. завалодаць гэтым рэгіёнам выклікала рашучыя супрацьдзеянні з боку кіеўскага князя Уладзіміра Манамаха. Пэўны час на Наваградскую зямлю ўплывала Галіцка-Валынскае княства.

К сярэдзіне XIII ст. Наваградская зямля дасягнула высокага сацыяльна-эканамічнага развіцця і выйшла з-пад прыцягнення Валыні. На Наваградчыне было добра развіта земляробства, рамёствы ганчарнае, кастарэзнае і інш. Выплаўлялася жалеза, і былі наладжаны розныя вырабы з яго, апрацоўваліся каштоўныя і каляровыя металы. Існаваў інтэнсіўны гандаль. Тэрыторыя была густа заселенай. Тут у XIII ст. існавалі такія гарады, як Наваградак, Слонім, Ваўкавыск, Горадзень (Гародня), Здзітаў, Зэльва, Свіслач і інш. У большасці з іх былі свае князі, а наваградскі быў для іх галоўным, вялікім князем. Верагодна, усё гэта і вызначыла назву ўсёй зямлі як Наваградскай. Выключна важнае значэнне для яе, як і для ўсёй Беларусі, меў той факт, што яна не зведала татара-мангольскага панавання.

**В. АРЛОЎ,**
**старшыня Віцебскай гарадской рады ТБМ.**

*З архіваў*

# «Бухгалтэрыя» смерці



*Помнік ахвярам гітлераўскага фашызму ў Віцебску.*

*Фотаздымак* **А. ЛАКОТКІ.**

**Мы працягваем друкаваць спісы вязняў Віцебскай гарадской турмы СД. Пачатак публікацыі—у «Выбары» №№17—22.24. 25. Спісы друкуюцца паводле дакумента «Рэгістрацыйны журнал асоб, арыштаваных СД», які вёўся на нямецкай мове і ахоплівае перыяд з чэрвеня па снежань 1942 года. Мы імкнёмся максімальна перадаць асаблівасці арыгінала.**

**Непаслядоўнасць дат ды недакладнасць некаторай іншай інфармацыі, якія сустракаюцца ў спісе, тлумачацца тым, што менавіта так яны пададзены ў дакуменце. У якіхсьці імёнах і прозвішчах вязняў магчымыя скажэнні ў выніку падвоенага перакладу—з рускай мовы на нямецкую і наадварот, а таксама з-за асаблівасцяў рукапіснага арыгінала.**

**Рэдакцыя выказвае шчырую падзяку супрацоўнікам Віцебскага абласнога архіва за дадзены дакумент.**

## Тетрадь № 8

### Фонд 2155, опись 2, дело 5

| Прибытие | Убытие | Номер арестованного | Номер камеры | Фамилия, имя | Кто доставил, арестовал |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 2.07.42 | |
| | 1 | 1994 | 46 | Моргун София | СД |
| | 1 | 1995 | 46 | Моргун Елена | СД |
| | 1 | 2099 | 91 | Амозо Александр | СД |
| | 1 | 2101 | 8 | Перешевский Василий | СД |
| | 1 | 2102 | 91 | Пономарев Михаил | СД |
| | 1 | 2103 | 91 | Сафонов Леонид | СД |
| | 1 | 2104 | 91 | Боробоз Леонид | СД |
| | 1 | 2100 | 91 | Волков Григорий | СД |
| | 1 | 2105 | 88 | Тишкевич Слансу | СД |
| | 1 | 2600 | 84 | Ерошков Александр | СД |
| | 1 | 2454 | 66 | Горабенков Александр | СД |
| | 1 | 2455 | 75 | Шединин Василий | СД |
| | 1 | 651 | 91 | Бухрович Владимир | отпущен |
| | 1 | 652 | 91 | Биролов Нигил | отпущен |
| | 1 | 2097 | 29 | Белозеров Прокопий | отпущен после суда |
| | 1 | 1036 | 92 | Кошлом Иосиф | умер |
| 1 | | 2706 | 12 | Абесгон Рива | охранная группа 5 полиц. уч |
| 1 | | 2707 | 12 | Каплан Слава | —»— |
| 1 | | 2708 | 12 | Сторбиков Сина | —»— |
| 1 | | 2709 | 37 | Гарлус Василий | из больницы |
| 1 | | 2710 | 15 | Руссинов Соломон | 5 пол. уч. |
| 1 | | 2711 | 15 | Керлик Мих. | —»— |
| 1 | | 2712 | 15 | Глахманн Илаус | СД |
| | 1 | 2653 | 101 | Орлов Петр | СД |
| | 1 | 1893 | 22 | Валушин Александр | СД |
| | 1 | 1885 | 47 | Валаханович Вера | СД |
| | 1 | 1891 | 91 | Гуценко Евгений | СД |
| | 1 | 1886 | 96 | Кириченко Алекс. | СД |
| | 1 | 1882 | 92 | Станкевич Альберт | СД |
| | 1 | 1887 | 96 | Федорович Ромуальд | СД |
| | 1 | 1881 | 97 | Спранцев Иван | СД |
| | 1 | 1884 | 47 | Кудлитская Александра | СД |
| | 1 | 2668 | 101 | Тарасов Стефан | СД |
| | | | | 3.07.42 | |
| 1 | | 2713 | 15 | Назаревич Ц. | 4 пол. уч. |
| | 1 | 1796 | 68 | Гоцбах Отто | нем. суд |
| | 1 | 2344 | 27 | Шалак Роман | нем. суд |
| | 1 | 2368 | 99 | Фирцевич Ёзеф | 1 полиц. уч. |
| | 1 | 2389 | 38 | Льзак Н. | 1 полиц. уч. |
| | 1 | 2504 | 45 | Маньковский Станислав | 1 полиц. уч. |
| 1 | | 2714 | 68 | Комаховский Пётр | нем. суд |
| | 1 | 1523 | 90 | Алатко Павел | СД |
| | 1 | 2608 | 52 | Миркурова Нина | в больницу |
| 1 | | 2715 | 15 | Матусевич Федор | СД |
| | 1 | 2608 | 52 | Миркурова Нина | в больницу |
| 1 | | 2715 | 15 | Матусевич Федор | СД |
| 1 | | 2716 | 15 | Ярошевич Симон | СД |
| 1 | | 2717 | 15 | Милашевский Марион | СД |
| 1 | | 2718 | 15 | Сименкович Иван | суд |
| 1 | | 2719 | 15 | Гайдукевич Яков | суд |
| 1 | | 2720 | 15 | Лахнович Алексей | суд |
| 1 | | 2721 | 12 | Лапидус Сара | 5 полиц. уч. |
| 1 | | 2722 | 12 | Шилкова Алеся | СД |
| 1 | | 2723 | 12 | Пасвич Анастасия | СД |
| 1 | | 2724 | 12 | Каслинская Александра | СД |
| 1 | | 2725 | 15 | Хилкевич Александр | 3 полиц. уч |
| 1 | | 2726 | 26 | Шуляк Василий | суд |
| | | | | 4.07.42 | |
| | 1 | 2723 | 12 | Пасевич Анастасия | СД |
| | 1 | 2724 | 12 | Каслинская Александра | СД |
| 1 | | 2727 | 15 | Дубровский Поликарп | СД |
| 1 | | 2728 | 12 | Ригова Тамара | СД |
| 1 | | 2729 | 15 | Аранов Казимир | |
| | 1 | 2500 | 88 | Комисарова Агрина | СД |
| 1 | | 2730 | 15 | Федоев Федор | СД |
| 1 | | 2731 | 52 | Меркурова Нина | из больницы |
| 1 | | 2732 | 18 | Ришиков Николай | из больницы |
| | 1 | 731 | 97 | Чарняков Григорий | СД |
| | 1 | 748 | 85 | Димитриус Иван | СД |
| 1 | | 2734 | 15 | Зубков Никита | 3 пол. уч. |
| 1 | | 2735 | 12 | Штец Александра | 3 пол. уч. |
| | 1 | 2587 | 78 | Кохан Анатолий | СД |
| | 1 | 2589 | 20 | Комаровский Анатолий | СД |
| | 1 | 2590 | 62 | Техупрлер Моисей | СД |
| | 1 | 2592 | 54 | Придешаева Ирина | СД |
| | 1 | 2593 | 52 | Муская Янина | СД |
| | | | | 5.07.42 | |
| 1 | | 2736 | 67 | Фимишчек Федор | 2 пол. уч. |
| 1 | | 2737 | 67 | Сергейчик Леон | 2 пол. уч. |
| 1 | | 2738 | 72 | Нольте Франц | |
| | | | | 6.07.42 | |
| | 1 | 2427 | 38 | Боруев Александр | СД |
| | 1 | 2428 | 41 | Василевич Шой | СД |
| | 1 | 2429 | 44 | Рабгифф Леонис | СД |
| | 1 | 109 | 37 | Кашевский Адам | суд |
| | 1 | 2579 | 15 | Ревинский Мечислав | СД |
| | 1 | 791 | 73 | Караличенко Алекс. | |

(Працяг у наступным нумары)

